Дар’я Домрачава прыме рашэнне аб прадаўжэнні спартыўнай кар’еры ў бліжэйшы час.

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 46 (4298)

8 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Шаноўныя сябры!*
*Не забудзьце падпісацца на “Народную Волю” на другую палову 2018 года!*

СТОП-КАДР





Стадыён “Дынама” ў хуткім часе прыме спартсменаў і балельшчыкаў. Ідуць завяршальныя работы па рэканструкцыі і аздабленні.
Фота Максіма Гучака (БЕЛТА)

ПРАТЭСТ

## Рэстарану не месца ля крыжоў

Ужо некалькі дзён грамадскія актывісты пратэстуюць каля рэстарана «Паедзем, паядзім» ля мемарыяла ахвяр сталінізму ў Курапатах. Яны выступаюць супраць з’яўлення рэстарана ў гэтым месцы.

– У чацвер размяшчалі інфармацыйныя плакаты на браме і плоце рэстарана з выявамі курапацкіх расстрэлаў і крыжоў, – сказаў палітык **Павел Севярынец**. – Адміністратар спрабавала сарваць нашы матэрыялы, але ёй зрабіць гэта не далі. Ахоўнік хацеў зрабіць тое ж самае, але яго скруцілі і здалі міліцыі. Зараз па гэтым факце ідзе разбіральніцтва. На мяне супрацоўнікі ДАІ таксама афармілі чарговы пратакол за тое, што быццам бы знаходзіўся на праезнай частцы, хаця гэта дастаткова спрэчнае пытанне.

**– А што будзеце рабіць далей?**

– Будзем стаяць да таго часу, пакуль сюды будуць прыходзіць актывісты. Дарэчы, рэстаран адкрыўся, але наведвальнікаў пакуль практычна не было. Я думаю, што ўстанова наогул з часам стане банкротам, бо “слава” пра яго ўжо пайшла гуляць па свеце.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

# «Русский мир» акружае…

Паводле сацыялагічных апытанняў, праведзеных амерыканскім Інстытутам Гэлапа, у апошнія гады расійскія тэлеканалы ў нас, у Беларусі, больш папулярныя, чым свае, нацыянальныя.

І яшчэ. Беларускае агенцтва Vondel/Hepta апублікавала дадзеныя даследавання, падчас якога вывучаліся перавагі моладзі Беларусі. З іх вынікае, што сярод вядомых людзей, якіх моладзь лічыць паспяховымі, Уладзімір Пуцін заняў пятае месца, а вось Аляксандр Лукашэнка не трапіў у першую дзясятку.

Даваряць ці не даваряць гэлапаўскім сацыёлагам – гэта ўжо справа кожнага з нас. Але факт застаецца фактам: расійскія тэлеканалы штодзённа апавядаюць беларусам пра моцнага лідара Уладзіміра Пуціна. Значная частка беларускага насельніцтва бачыць свет скрозь расійскую тэлевізійную прызму, лічыць, што «Крым – наш», Расія – галоўная апора сіл дабра, падтрымлівае ідэю імперскага рэваншу.

Да таго ж шмат беларусаў (некалькі соцень тысяч) працуюць у Расіі, бо ў Беларусі няма добрай працы. І яны вяртаюцца адтуль перакананымі пуціністамі.

Актыўна працуюць у Беларусі прарасійскія арганізацыі ад казакоў да арганізацыі “Русь молодая”. Сваю сілу яны прадэманстравалі 9 мая на Дзень Перамогі. Пад брэндам “Несмяротны полк” па галоўным праспекце Мінска прайшло шэсце прарасійскіх сіл колькасцю 1,5 тысячы чалавек. Там прысутнічала адпаведная атрыбутыка. Георгіеўскія стужкі – гэта кветачкі. Моладзь ішла з майкамі «Армия России», «Донецкая Народная Республика», «Вежливые люди», з расійскім гербам. У гэтым шэсці брала ўдзел людзі нават з прыўладных структур.

Расійскае інфармацыйнае агенцтва «Спутник» паводле вынікаў святкавання Дня Перамогі дало загаловак: “Несмяротны полк” прайшоў у сераду па ўсёй Беларусі”. Тут яно трохі выдала жаданае за існае. Усё ж людзі з партрэтамі загінуўшых продкаў ішлі ў рамках афіцыйных мерапрыемстваў пад назвай «Беларусь памятае».

Але парадокс у тым, што абсалютная большасць людзей, якія ішлі з партрэтамі, былі ўпэўнены, што ўдзельнічаюць у акцыі “Несмяротны полк”. Бо жывуць у расійскай інфармацыйнай прасторы. Вось гэтае стыхійнае, да канца не ўсвядомленае адчуванне сябе часткай «русского мира», можа, і ёсць самае небяспечнае.

Беларуская ўлады не хавалі сваёй разгубленасці. Спачатку Мінскі гарвыканкам забараніў шэсце “Несмяротны полк”. Потым з’явілася вусная дамоўленасць, што ўлады не будуць перашкаджаць гэтай акцыі.

Такім чынам, на Дзень Перамогі мы выразна ўбачылі ў цэнтры сталіцы прарасійскую “пятую калону”. Гэтыя сілы арганізацыйна аформіліся і маюць моцную падтрымку з Масквы. Расія прадэманстравала эфект мяккай сілы. Адзін з актывістаў прарасійскага руху і ўдзельнік гэтага шэсця Арцём Агафонаў напісаў у сваім блогу: *“Мне часто приходилось слышать от националистов, что мы не способны вывести людей на улицы. 9 мая мы расставили точки над «і» в этом споре. В полуподпольном шествии, разрешенном в последние часы, альтернативном официальному мероприятию, приняли участие столько людей, сколько сами националисты не выводили очень давно, даже имея заранее согласованное разрешение”.* У гэтым выхваленні ёсць вялікая доля праўды.

Усё гэта сведчыць пра тое, што ўплыў «русского мира» на беларускае грамадства – гэта сур’ёзны выклік як для ўлады Лукашэнкі, так і для беларускай незалежнасці.

Але праблема ў тым, што існуючы рэжым не адважваецца рашуча нейтралізаваць механізмы расійскага ўплыву, напрыклад, перакрыць хаця б інфармацыйныя праграмы і палітычныя ток-шоу расійскіх тэлеканалаў па некалькіх прычынах.

Па-першае, асцерагаецца негатыўнай рэакцыі Расіі, ад эканамічнай падтрымкі якой моцна залежыць сацыяльная стабільнасць Беларусі.

Па-другое, значная частка беларускага грамадства, хутчэй за ўсё, займае больш прарасійскую пазіцыю, чым афіцыйны Мінск. Таму для ўлад ёсць небяспека, што ў выпадку больш рашучага адмежавання ад «русского мира» яна выкліча непаразуменне з боку ўласнага электарату.

Па-трэцяе, калі адрынаць «русский мир», то трэба шукаць яму замену ў выглядзе беларускага нацыянальнага адраджэння. Бо прырода не цярпіць пустаты. Але фарміраванне нацыянальнай ідэнтычнасці прадугледжвае, што ў краіне будзе адбывацца працэс палітычнай мабілізацыі, хай і ў мяккай форме. І гэта небяспечна для існуючых улад. Бо яны трымаюцца не столькі на падтрымцы насельніцтва, колькі на апалітычнасці, абыякавасці, атамізацыі, дэмабілізацыі грамадства. А любы нацыяналізм азначае, наадварот, якраз мабілізацыю.

Да таго ж так гістарычна склалася, што фарміраванне этнакультурнай ідэнтычнасці, беларускага нацыяналізму адбывалася пад бел-чырвона-белым сцягам. Інакш кажучы, нацыянальна свядомая частка насельніцтва аўтаматычна аказваецца ў апазіцыі да цяперашняй улады. У выніку атрымліваецца, што, запусціўшы працэс фарміравання беларускай нацыі на этнакультурнай аснове, улада падрывае падмурак свайго ўласнага ўладарання.

Так, задачка не з простых. А пагроза “русского мира” для Беларусі пашыраецца з кожным днём. І тут ёсць над чым задумацца і Аляксандру Лукашэнку са сваім атачэннем, і ўсім здаровым сілам краіны.

СКАЗАНО!

## Александр Лукашенко – вице-президенту Европейского банка реконструкции и развития Алану Пию:

– Вы знаете наши подходы к приватизации государственной собственности, государственных объектов. Я не думаю, что мои взгляды на приватизацию носят некий особый характер и уж слишком отличаются от тех подходов, которые проповедует Европейский банк. Мы абсолютно не против процессов приватизации, это вполне естественная норма. Но мы исходим из того, как, наверное, и все здравые люди, что, если государство не может управлять какимито активами, если государство не до этих активов, надо отдать их эффективному собственнику. Мы из этого исходим, и это главное. Мы против обвальной и шоковой приватизации. Это суть нашего подхода, потому что, согласитесь, объекты госсобственности создавал весь народ, особенно в былые времена. И взять росчерком пера, чохом их продать за бесценок – это значит породить несправедливость, взбудоражить народ, который выразит свое недовольство, как это было в соседних республиках бывшего Советского Союза, вы, наверное, этот опыт изучали. Поэтому мы хотим, чтобы приватизация не была некой сферой напряжения в обществе. И чтобы народ, государство в перспективе от этой приватизации получали то, что должны в виде нормальной зарплаты, рабочих мест, доходов в бюджет и развития.



ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Почему молчит Александр Конюк?

На днях А.Лукашенко рассказал о новых коррупционных скандалах. Как выяснилось, задержано несколько высокопоставленных лиц. Они уже пару недель сидят в СИЗО, дают показания, сочиняют прошения о помиловании и клянутся, что отдадут последние штаны и начнут жизнь с чистого листа, лишь бы снова оказаться на свободе.

Шеф Комитета госбезопасности **Валерий Вакульчик** вчера объяснил: установлены многочисленные факты получения взяток на десятки тысяч долларов. За год – около 140 тысяч долларов. На одного задержанного такая цифра приходилась или на всех – пока точно не ясно. Подробности для публики обещали огласить в течение ближайших недель.

Генпрокурор **Александр Конюк** добавил: источником коррупционных разоблачений стали декларации о доходах, которые, как известно, должен заполнять каждый чиновник. Но фамилии высокопоставленных взяточников назвать отказался. Сказал: нравится ему выражение «*No comments*».

Интересно только, почему генпрокурору нечего сказать о коррупции в высших эшелонах власти? Ведь почти каждый месяц появляются новости о задержании высокопоставленных взяточников! Или это нормально для страны, давным-давно объявившей беспощадную войну коррупции?

Три года назад, когда рассматривали проект закона «О борьбе с коррупцией», Александр Конюк выступил противником того, чтобы публиковать декларации чиновников.

*«В этом нет необходимости. Зачем удовлетворять обывательский интерес о том, у кого что есть? Это не совсем этично»*, – аргументировал Александр Владимирович.

А ведь мог бы, кстати, и пример показать! Даже Лукашенко говорил: *«Народ должен знать, как живут чиновники и их родственники, откуда деньги и собственность у этих людей. Это нормальная международная практика»*.

Людям интересно, что написано в декларации генерального прокурора: за какие средства дом строит, брал ли кредит, если да – то на сколько лет и под какие проценты.

*(Окончание на 2-й стр.)*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Мой певень топча курэй так, што толькі пер’е ляціць!..»

*Карэспандэнт “Народнай Волі” наведаўся на выставу “Белагра-2018”.*

Выстава адкрылася 5 чэрвеня ў Шчомысліцах пад Мінскам і будзе працягвацца да 10 чэрвеня. Штодзённа ад станцыі метро “Малінаўка” туды можна даехаць бясплатнымі маршруткамі ці аўтобусамі, якія ходзяць з перыядычнасцю ад 40 хвілін да гадзіны. Праўда, у той дзень, калі ехаў я, зранку быў аншлаг. Жадаючыя пагладзець сельскагаспадарчыя навінкі літаральна віселі на парэнчах аўтобуса, тым больш што яго арганізатары заказалі аўтобус не гарадскога тыпу, а меншых памераў. Відаць, сэканомілі.

Але трываць давялося не вельмі шмат – праз 5–7 хвілін ужо на месцы. На вуліцы наведвальнікаў адразу ж сустракалі шэрагі самай сучаснай сельгастэхнікі. Айчынныя і імпартныя камбайны, трактары, розныя культыватары і бульбакапалкі, прычэпы і рухавікі. Усяго на адкрытых пляцоўках – каля 300 адзінак тэхнікі, прадукцыя агракамбінатаў, сельскагаспадарчыя жывёлы. Арганізатары распавялі, што ўдзел у выставе бяруць 536 кампаній з 28 краін.

**Дзяніс Крот**, прадстаўнік кампаніі “Полымя”, якая займаецца пастаўкамі замежнай сельскагаспадарчай тэхнікі ў Беларусь, распавядае мне пра навінкі ў гэтай вобласці.

*“Падзівіцеся на гэты італьянскі тэлескапічны пагрузчык*, – з захапленнем кажа ён і ўказвае на нейкі зялёны трактарчык. – *Гэта тэхніка новага пакалення, яго ўпершыню прывезлі ў нашу краіну! Рухавік адаптаваны пад наша паліва, сучасная кабіна, цудоўны дызайн. Калі раней стаўка рабілася на эфектыўнасць работы тэхнікі, то зараз стварылі яшчэ і суперкамфорт для апаратара. А вось трактар “Fend” (на фота)! Сапраўдны волат! Магутнасць – каля 400 конскіх сіл, вага – 16,5 тоны. Здаецца, 15 машын ужо купілі ў Беларусі. Хто набывае? У асноўным буйныя сельскія гаспадаркі альбо холдынгі, бо машына каштуе не так ужо і танна – каля 300 тысяч еўра. Але, як кажуць англічане, мы не такія багатыя, каб купляць танныя рэчы. Калі сапраўдны гаспадар усё пралічыць, то ўбачыць, што трактар сябе акупіць. Ён адзін замяняе пяць, а то і дзесяць трактараў меншай магутнасці, а гэта ж якая эканомія!”*



Прадстаўнікі розных кампаній нахвальваюць свой тавар, шматлюдна і ля прадстаўніцтва Мінскага трактарнага завода. У асноўным усіх цікавіць чырвоны робат-трактар, і некаторыя спрабуюць зразумець, як ён працуе ў полі. Хаця затым аказваецца, што робат – гэта проста муляж, які зрабілі адмыслова для выставы. І не больш за тое.

А вось ля павільёна, дзе прадстаўлены навуковыя распрацоўкі ў галіне сельскай гаспадаркі, незвычайнае афармленне на ўваходзе прымушае некаторых задумацца аб сэнсе жыцця і задаць такімі ж няпростымі пытаннямі, што і навукоўцы. Ля вялікага плаката з выявамі кароў знізу стаяў меншы плакацік з надпісам: “Які рыбе вы аддаце перавагу?”

Дарэчы, рыбы на выставе таксама хапае. Рачную фарэль, напрыклад, можна купіць за 10 рублёў за кілаграм, у вялікіх басейнах плаваюць карпы, шчупакі, самы.

– Скажыце, а ці магчыма, што вось гэты шчупак, які плавае разам з карасікамі, можа аднаго з іх з’есці ў гэтым басейне? – звяртаецца жанчына да прадстаўніка рыбаводчай гаспадаркі.

– Як захоча есці, то і з’есць, – проста адказвае мужчына і ці то жартам, ці сур’ёзна дадае: – У нас сом на дарозе ў Мінск паўмашыны рыбы з’еў. Трохкілаграмовага карпа праглынуў! Так што купляйце сама, аддадзім разам з карпам, якога праглынулі.

На выставу прыязджае шмат бацькоў з дзецьмі, і іх найперш цікавяць коні, каровы, свінні, разнастайныя пароды кур і пеўняў. Распораз узнікаюць дыялогі:

– Колькі вашы куры каштуюць?

– Я толькі аднаго пеўня прадаю – за 40 рублёў. Так, не танна... Але ж пародзісты, топча курэй так, што толькі пер’е ляціць!

– А каза ці прадаецца?

– Маленькія козачкі – ад 500 долараў. Племянныя. Дарослая каза дае ў сярэднім амаль 3 літры малака раніцай і столькі ж вечарам.

Не абмінаюць наведвальнікі выставы і прыгажуноў-быкоў! Вось, скажам, глядзіць на людзей вялікімі і, як мне падаецца, крыху стомленымі вачыма бык-вытворца лімузінскай пароды Бэл. Яго вага ўражвае – 1100 кілаграмаў. Бэл са сваімі калегамі добра спраўляецца са сваімі абавязкамі – я, напрыклад, і не ведаў раней, што на абласных племянных прадпрыемствах маецца запас спермы быкоў-вытворцаў абердзін-ангускай пароды ў колькасці 210 тысяч доз. Зараз разумею, чаму ў Бэла былі такія вочы.

…На вуліцы да вечара іграла музыка, смажыліся шашлыкі, лілася ракой гарэлка, але пасля 18.00 народ пачаў разыходзіцца. Зрэшты, удавалася гэта не ўсім: некаторыя аграрыі (альбо наведвальнікі) заставаліся ляжаць на траве. Відаць, пад уражаннем ад выставы. Як кажуць: ну, за сельскую гаспадарку!

Алесь СІВЫ.

*Фота аўтара.*

СТОП-КАДР



Вид с вертолета на Национальную библиотеку. Фото Оксаны Манчук. (БелТА)

ДЫПКУР'ЕР

## У Дубаі адкрыецца генконсульства Беларусі

*Адбудзецца гэта сёлета.*

У той жа час у межах аптымізацыі апарату МЗС з пачатку года Беларусь закрыла пасольства ў Эфіопіі і адкрыла ў Кеніі. Таксама былі прыняты рашэнні аб закрыцці генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Мілане (Італія) і ў польскім Гданьску. У Алматы 1 сакавіка закрыта аддзяленне пасольства Беларусі ў Казахстане. Таксама ў гэтым годзе будзе закрыта генконсульства Беларусі ў Адэсе (Украіна).

КАРАКАС – МІНСК

## Венесуэла верне Беларусі шматмільённыя даўгі?

Нядаўна ў прэсе з'явілася навіна: у Беларусі чакаюць першыя пастаўкі горачабрыкетаванага жалеза з Венесуэлы. Так гэтая лацінаамерыканская краіна будзе вяртаць даўгі Мінскім аўтамабільнаму і трактарнаму заводам.

*«Рух пачаўся. Кантракт па таварных пастаўках горачабрыкетаванага жалеза венесуэльскім бокам ухвалены. У бліжэйшыя месяц-два мы пачнём пастаўкі ГБЖ у Беларусь. Гэта будзе першы крок для аднаўлення працы нашых сумесных прадпрыемстваў»*, – паведаміў "Беларускім навінам" міністр прамысловасці Беларусі **Віталь Воўк.**

Але справа ў тым, што яшчэ ўвосень мінулага года былі дасягнуты дамоўленасці аб пастаўках горачабрыкетаванага жалеза з Венесуэлы. Спачатку кіраўнікі краін **Аляксандр Лукашэнка і Нікалас Мадура** абмеркавалі гэтае пытанне падчас візіту ў Беларусь прэзідэнта Венесуэлы, пазней аб пастаўках сыравіны вялі перамовы міністры Віталь Воўк і **Хуан Арыас**. *«Адтуль будзе альбо горачабрыкетаванае жалеза, альбо алюміній. А туды – машынакамплекты»*, – гаварыў летась у кастрычніку Воўк.

То бок атрымліваецца, што толькі праз 7 месяцаў венесуэльскі бок ухваліў кантракт на пастаўкі сыравіны. Колькі яшчэ спатрэбіцца часу, каб гэтыя пастаўкі пачаліся? І галоўнае – калі адновяць работу сумесныя беларуска-венесуэльскія прадпрыемствы па зборцы трактароў «Беларус» і МАЗаў – «ВенеМінск Трактарэс» і «МАЗВен»?

Справы ў гэтых СП, як ужо не раз пісала «Народная Воля», апошнія некалькі гадоў ідуць не проста дрэнна, а вельмі дрэнна – з гэтага года заводы прыпынілі сваю дзейнасць. Вытворчасць тэхнікі спынена ў сувязі з тым, што венесуэльскі бок мае велізарныя даўгі перад беларускімі прадпрыемствамі. Паводле некаторай інфармацыі з венесуэльскіх крыніц, запазычанасць толькі перад МАЗам складае больш за 100 мільёнаў долараў. Менавіта таму МТЗ і МАЗ не пастаўляюць больш у Венесуэлу камплектуючыя, без якіх заводы працаваць не могуць.

Аднак трэба адзначыць, што прадстаўнікі беларускага боку, нягледзячы на мільённыя венесуэльскія даўгі і тую сітуацыю, якая склалася ў Венесуэле (краіну ахапіў глыбокі крызіс, знешні доўг Венесуэлы, паводле ацэнак эспертаў, складае 155 мільярдаў долараў), заяўляюць, што гэты рынак нам губляць нельга. Вось адна з апошніх цытат на гэты конт генеральнага дырэктара ААТ «МАЗ» – кіруючай кампаніі холдынга «БЕЛАЎТАМАЗ» **Дзмітрыя Кацярыніча:** *"Венесуэльскі бок мае перад намі вялікія даўгі. Зараз спрабуем вырашыць гэтыя даўгі шляхам пастаўкі слябаў (сталёвыя нарыхтоўкі) і металічных акатышаў (сыравіна для атрымання чыгуну) на Беларускі металургічны завод. Як толькі першы карабель прыйдзе, пойдуць разлікі, і адновім гэты праект. Але мы зацікаўлены ў гэтым рынку. Ён вялікі. Сваёй вытворчасці машын у іх няма. І для іх адна з асноўных праблем – стварэнне працоўных месцаў. Вы ж бачыце, што там не ўсё спакойна ў сацыяльным плане. Спадзяюся, нашы інтарэсы супадуць".*

Марыя ЭЙСМАНТ.

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

## Почему молчит Александр Конюк?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Известно, что Александр Конюк с супругой имели в собственности квартиру в Уручье на улице Ложинской (дом сдан в 2012 году), а также участок в чиновничьем поселке «Дрозды-2» (землю под строительство генпрокурор тоже получил в 2012 году). 15 соток Конюка находятся на первой береговой линии…

Буквально недавно «Народная Воля» сообщала о скандале с помощником президента – инспектором по Гродненской области **Сергеем Ровнейко,** которого задержали с поличным за взятку в 200 тысяч долларов. В поле зрения правоохранителей Ровнейко тоже попал из-за вопросов, возникших после заполнения декларации о доходах.

*«Когда шло кадровое изучение, я задал вопрос, откуда такая роскошь: автомобили до десятка, квартиры до десятка,* – комментировал громкое задержание Лукашенко. – *Не может обычный чиновник и его семья так жить!»*

А почему сегодня не опубликовать декларацию Ровнейко? Какие здесь уже могут быть тайны, если человек арестован, со скандалом задержан и, если верить сообщениям КГБ, признался в своей противоправной деятельности? Или тоже неэтично? А может, еще и судить Ровнейко в закрытом режиме будут?

Ведь когда дело касается задержания оппозиционеров, то буквально на следующий день белорусское телевидение сообщает, в каких банках у них счета, сколько квартир, пиджаков от «Армани» и прочего богатства. Например, когда арестовали известного правозащитника **Алеся Беляцкого**, официальные средства массовой информации тут же начали в подробностях говорить о его имуществе, подсчитывать рыночную стоимость квартир, коттеджа и автомобиля. Потом, правда, выяснилось, что «шикарный коттедж» – это старый отремонтированный дом под Раковом, а «шикарное авто» – «Ситроен» пенсионного возраста. Зато как преподнесли!

Почему к чиновникам другой подход?

Пусть бы люди посмотрели, какие квартиры и машины были в собственности того же Ровнейко и других арестованных коррупционеров. Потому что одно дело – старый «Опель» и хрущевка 1960-х годов постройки, и другое дело – мерседесы и коттеджи за миллионы долларов.

Кстати, генпрокурор Конюк считает, что *«ничего чрезвычайного»* в истории Ровнейко нет: мол, обычная практика, а большой общественный резонанс – это из-за должности, которую занимал задержанный.

В лидерах по коррупции – сферы государственного управления, сельского хозяйства, промышленности, транспорта и здравоохранения.

Как известно, прокуратура координирует правоохранительную деятельность государственных органов, осуществляющих борьбу с преступностью и коррупцией. Со времен **Олега Божелко** генеральные прокуроры в своем кресле задерживались в среднем на четыре года. **Александр Конюк** получил должность в сентябре 2011 года. Не засиделся ли?..

Марина КОКТЫШ.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей ЧАЛЫ: «Падазроныя выйшлі на волю»

*Эканаміст, якога збілі ў мінулым месяцы, распавёў "Народнай Волі", як ідзе разбіральніцтва па справе.*

Як раней паведамлялася, у ноч на 19 мая невядомыя бэў збіты незалежны эканамічны аналітык **Сяргей Чалы.** Інцыдэнт адбыўся ў самым цэнтры Мінска. Пасля збіцця Сяргей апынуўся ў Бальніцы хуткай дапамогі з разбітым тварам, зламаным носам і чэрапна-мазгавой траўмай.

Некаторыя звязвалі інцыдэнт з прафесійнай дзейнасцю Чалага, але сам ён распавёў "Народнай Волі", што, хучэй за ўсё, гэта не так.

Гэта сітуацыя са збіццём падаецца мне некалькі супярэчлівай. З аднаго боку, мяркую, што пацярпеў ад звычайных хуліганаў. А з іншага – звычайная "бытавуха" рэдка прыводзіць да такіх сур'ёзных наступстваў.

**– Было паведамленне, што чатыры чалавекі затрыманы…**

– Наколькі мне вядома, усе яны ўжо выйшлі на волю. Спачатку як быццам затрымалі чацвярых, але праз нейкі час у ізалятары застаўся толькі адзін. А пасля і яго адпусцілі. Мабыць, пад падпіску.



Праз нейкі час інцыдэнт пракаментаваў і міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч.**

*"Факт застасцецца фактам – банальная п'яная бойка дзвюх кампаній,* – распавёў ён. – *Злачынства ўдалося раскрыць па гарачых слядах, дзякуючы запісам з камер відэаназірання".*

Была распачата крымінальная справа, чацвярых чалавек затрымалі…

– Следства працягваецца, – кажа **Сяргей Чалы.** – Следчыя выклікалі мяне некалькі разоў, былі вочныя стаўкі з падазронымі. Увогуле, усе толькі адзін. А пасля і яго адпусцілі. Мабыць, пад падпіску.

**– Што гэта за людзі?**

– Ім па 25–30 гадоў, але адмысова я не цікавіўся, чым займаюцца. Ведаю, што пастаянна тусуюцца ў тым двары, дзе я быў збіты.

**– Ці ёсць нейкія наступствы для вашага здароўя пасля збіцця?**

– Як вядома, у бальніцы мне зрабілі аперацыю, але і зараз працягваю лячэнне ў неўрапатолага. Яшчэ каля двух тыдняў трэба хадзіць на рэабілітацыю.

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВОПРОС

## У государства есть возможность вернуть людям их «советские» вклады!

"Народная Воля" периодически поднимает очень актуальную тему: когда государство вернет белорусам сгоревшие вклады, которые лежали на сберкнижках СССР?

Например, мои сбережения были колоссальные – 64 (шестьдесят четыре) тысячи советских рублей! А превратились эти деньги по состоянию на май 2017 года в одну копейку (!) действующей белорусской валюты. И это не шутка! Такой перерасчет придумали наши финансисты. Так вот цинично поступили с пенсионерами – самой незащищенной группой населения Республики Беларусь.

Чтобы добиться справедливости, я направил во все высшие инстанции государства письма с просьбой дать ответ: почему нарушена статья 44 Конституции Республики Беларусь, которая гласит, что государство поощряет и охраняет сбережения граждан, создает гарантии возврата вкладов. Если не исполняется статья 44 Конституции, то разве можно выполнить статью 21, в которой говорится, что каждый гражданин имеет право на достойный уровень жизни, включая достойное питание, одежду, жилье и постоянное улучшение необходимых для этого условий. Разве может пенсионер, ветеран труда, лишенный своих сбережений в банках, которые собирал десятилетия, выполнить перечисленные условия?

Обратился я в Палату представителей Национального собрания к депутату по нашему избирательному округу **Ю.А.Лобачу.** Все-таки Палата представителей – это законотворческая организация, она не должна быть в стороне от контроля за соблюдением законов.

В письме я просил рассмотреть вопрос о компенсации вкладов ветеранам труда на очередной сессии Палаты представителей, поскольку это жизненно важный, проблемный вопрос,





но на протяжении почти двадцати лет он, по сути, не решался.

В ответе Ю.А.Лобач сообщил, что проведение дополнительных компенсационных мероприятий по возмещению потерь граждан, обусловленных инфляционными процессами, достаточно сложный, но вместе с тем остается на контроле постоянной комиссии по бюджету и финансам и всего депутатского корпуса в целом.

И все!

Тогда я направил письмо в адрес президента страны **А.Г.Лукашенко.** Ответили из Администрации, что компенсировать обесцененные в результате инфляции денежные средства в ближайшее время не планируется.

На мое письмо в адрес председателя Совмина **А.В.Кобякова** ответ пришел из Минфина. По сути аналогичный тому, который я получил из Администрации президента.

Конституционный суд (председатель **П.П.Миклашевич**) ответил, что вопросы компенсации потерь от инфляционного обесценения вкладов, размещенных в банках бывшего Советского Союза, относится к ведению ОАО «Сберегательный банк «Беларусбанк». И ни слова не сказано о причинах нарушения статьи 44 Конституции Республики Беларусь.

Отправленные мной материалы (выписки из документов ОАО «Беларусбанк», копии ответов других инстанций) и заявление в Комитет государственного контроля там не рассматривались, а были направлены, переадресованы руководству Национального банка Республики Беларусь.

Национальный банк соответственно направил мое письмо-заявление в адрес ОАО «Беларусбанк», а те, сославшись на указы президента, сообщили, что данная компенсация выплачивалась в течение 10 лет (1998–2007 гг.) на основании заявлений вкладчиков. А так как я с заявлением в банк не обращался, то с 1 января 2008 года компенсационные вклады (выплаты), согласно указу президента, прекращены. И также мне ответили, что ОАО «Беларусбанк» полностью выполняет обязательства в отношении моего вклада в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Какая безнравственность, лицемерие и даже кощунство по отношению к вкладчикам звучат в таком ответе: дескать, банк выполнил полностью свои обязательства перед вкладчиками!!!

Вдумайтесь, уважаемые читатели, о каких обязательствах идет речь? За 20 лет 64 тысячи советских рублей, за которые когда-то можно было купить более десяти автомашин, обесценились до 1 (одной) копейки! Вот это обязательство, которое иначе как преступным назвать нельзя.

Но на самом деле в государстве есть деньги, которые можно пустить на выплату компенсаций вкладчикам, потерявшим свои советские сбережения.

Что предлагаю я?

***Первое.*** Необходимо отменить перечисленные выше указы президента и вернуться к рассмотрению этого вопроса на сессии Национального собрания Республики Беларусь.

***Второе.*** Обязать, а вернее поручить ОАО «Беларусбанк» произвести расчет по вкладам из средств сверхплановой и плановой прибыли из расчета стоимости одного доллара по состоянию на 1 января 1992 года 100 (сто) советских рублей. Такое решение должно быть выполнено до конца текущего года.

***Третье.*** При недостатке денежных средств для работы с населением по вкладам в ОАО «Беларусбанке» пересмотреть республиканский бюджет и уменьшить на 50 процентов расходы на Службу безопасности президента и других высоких должностных лиц, на содержание Оперативно-аналитического центра при президенте, а также отказаться от бюджетного финансирования БРСМ, «Белой Руси» и ряда других общественных организаций. Почему они должны существовать на деньги налогоплательщиков?! Считаю, что ничего плохого в стране при таком решении не случится. Зато сэкономленные бюджетные средства можно будет направить на пополнение фонда для расчета по вкладам с населением Республики Беларусь.

За такое решение пенсионеры скажут властям большое спасибо.

И последнее. Хотелось бы через газету «Народная Воля» попросить бывшего главного банкира Беларуси, доктора экономических наук Станислава Богданкевича высказать свое мнение по данному вопросу.

А то ведь за державу обидно!

**Иван Андреевич ОГОРОДНИК,**
**кандидат технических наук.**
*г.Дзержинск.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

АСОБА

# Сяргей ЧЫГРЫН: «Мясцовыя ўлады глядзяць на краязнаўцаў як на апазіцыянераў»

*На творчым рахунку пісьменніка і краязнаўца са Слоніма Сяргея Чыгрына больш за 60 кніг. Ён даследуе не толькі родную Слонімшчыну, але і суседнія Зэльвеншыну, Дзятлаўшчыну і Навагрудчыну, нават замежную Беласточчыну. Але гэта, што называецца, занятак для душы, а штодзённая яго праца – у Слонімскім драматычным тэатры, дзе Сяргей загадвае літаратурнай часткай. З "тэатральных" пытанняў і пачалася наша гутарка.*



**– Сяргей, сярод "тэатральных" гарадоў Слонім самы невялікі, у ім налічваецца крыху менш за 50.000 жыхароў. Як сёння жывецца тэатру ў правінцыйным горадзе?**

– У Беларусі ўсяго 28 тэатраў, з іх немала знаходзіцца ў абласных і раённых цэнтрах – у Маладзечне, Пінску, Мазыры. І сапраўды, ты маеш рацыю: калі параўноўваць Слонім з гэтымі гарадамі, то ў нас насельніцтва ў два-тры разы менш. А зала ў тэатры ў нас даволі вялікая – на 196 месцаў. Для правінцыяльнага горада гэта больш чым дастаткова. Я ў тэатры больш за дваццаць гадоў і бачу, што з кожным годам гледачоў на спектаклях усё менш і менш. Асноўная прычына – людзі нашы ўсё больш бяднеюць і павінны найперш думаць пра хлеб надзённы.

**– А колькі каштуе квіток на вашы спектаклі?**

– Цана проста смешная – пяць рублёў для дарослых і тры з паловай рублі для дзяцей. Аднак справа нават не ў цане. Пачынаецца вясна, і людзі спяшаюцца ў вёску апрацоўваць агароды, ім не да тэатра. І так да позняй восені. Зімой наведвальнасць спектакляў нашмат лепшая. Я падлічыў: у нашым тэатры пабывала каля 60 працэнтаў слонімцаў. Асабліва людзі любяць глядзець камедыі, яны хочуць прыйсці на спектакль і адпачыць.

## «Акцёры працуюць у трох-чатырох месцах – хто вокны ўстаўляе, хто тамадой на вяселлях»

**– А ці карыстаецца попытам беларуская класіка? Які ў вас увогуле рэпертуар?**

– На класіку попыт заўсёды ёсць. Напрыклад, "Прымакі" Янкі Купалы ідуць ужо гадоў дзесяць. І "Паўлінка" таксама доўгажыхар на нашай сцэне. З замежнымі п'есамі складана, бо драматургі з другіх краін звычайна патрабуюць задатак – да 3000 долараў. Толькі тады яны згаджаюцца на пастаноўку пры ўмове атрымання 10–20 працэнтаў ад фінансавага збору. Таму мы працуем пераважна з беларускімі аўтарамі. Наш галоўны рэжысёр Васіль Сявец мае ў сваім партфелі немала п'ес беларускіх драматургаў – Сяргея Кавалёва, Васіля Ткачова і іншых. Найдаўжэй на сцэне жывуць дзіцячыя спектаклі. Напрыклад, "Малы і Карлсан" у маім перакладзе на беларускую мову ў нас ідзе больш за 10 гадоў. Але тут праблема кадравая. У вялікіх тэатрах у кожным спектаклі ёсць акцёры-дублёры. А ў нас на гэта не хапае трупы. І вось мы паставілі спектакль, а асноўны акцёр праз два-тры гады ўзяў і звольніўся. І трэба ўсё пачынаць па-новаму. Ці – закрываць спектакль.

**– А якая самая вялікая праблема стаіць сёння перад Слонімскім тэатрам?**

– Фінансавы план, які вельмі складана выканаць. Наш тэатр створаны для таго, каб прапагандаваць тэатральнае мастацтва ў рэгіёне. Таму мы амаль кожны тыдзень выязджаем на мясцовыя гастролі, дзе працаваць яшчэ больш складана, чым у Слоніме. Скажам, за мінулы год мы фінансавы план не выканалі. На маю думку, неабходна гэтыя планы значна паменшыць. Бо калі трэба вельмі часта выступаць, то губляецца майстэрства акцёраў. Тым больш ніводзін наш спектакль ніколі не атрымліваў сур'ёзных дзяржаўных датацый. Выкарыстоўваем тое, што зарабілі самі. На жаль, і заробкі ў нас проста мізэрныя. На сённяшні дзень я чыстымі на рукі атрымліваю 260–270 рублёў. У акцёраў атрымліваецца трошкі больш – 320–350 рублёў, бо ў іх катэгорыі – першая, вышэйшая, майстар сцэны. Але ці на такі заробак як сям'ю карміць? Таму нашы акцёры часам працуюць на трох-чатырох працах – хто вокны ўстаўляе, хто тамадой на вяселлях...

## «Дзяржаўныя выдавецтвы не выдалі ніводнай маёй кнігі»

**– Ты выдаў больш за 60 кніг – сваіх і чужых (пераважна спадчыну пісьменнікаў-землякоў). Прычым у 2012 годзе ў цябе выйшла пяць кніг, у 2013-м – шэсць, у 2014-м – чатыры, у 2015-м – пяць, у 2016-м – тры… Як табе ўдаецца працаваць у такім тэмпе?**

– Ды мне проста ніхто не перашкаджае. Сталічным пісьменнікам не шкодзіла б вярнуцца на свае малыя радзімы, у бацькоўскія хаты, калі такія засталіся, альбо набыць сабе "творчыя дамы" ў правінцыі, сядзець там і працаваць. Я пішу не толькі пра Слонімшчыну – выдаў некалькі кніг пра беларускую Беласточчыну, ахопліваю Зэльвеншчыну, Дзятлаўшчыну і Навагрудчыну. На сённяшні дзень я сабраў і падрыхтаваў да друку спадчыну Георгія Пеха (заснавальніка Ваўкавыскага гістарычнага музея), збор твораў двойчы рэпрэсаванага пісьменніка Тодара Лебяды, кнігі нашаніўца Гальшэа Леўчыка і нашага сучасніка Міколы Арочкі, а таксама зборнік "Лісты ў Слонім" (пісьмы знакамітых беларусаў, з якімі пашчасціла перапісвацца). Былі б сродкі…

**– А чаму з шасці дзясяткаў тваіх кніг ніводная (!) не выйшла ў дзяржаўным выдавецтве?**

– З майго боку спробы выдацца там былі. Кніга "Ад Слоніма да Беластока" чатыры гады праляжала ў холдынгу "Літаратура і мастацтва". Яго тагачасны дырэктар Алесь Карлюкевіч (сённяшні міністр інфармацыі) усё абяцаў выдаць… І ў "Мастацкай літаратуры" некалькі гадоў праляжала адна з маіх гісторыка-краязнаўчых кніг, і ў выдавецтве "Народная асвета". Нібыта яны там рыхтаваліся да друку, але таксама нешта перашкодзіла. Так што пры падтрымцы дзяржавы я сапраўды ніводнай кнігі не выдаў.

## «На Дні пісьменства на першым месцы павінны быць беларуская кніга і беларускі пісьменнік, а не шашлыкі і песенная папса»

**– Ужо вядома, што ў наступным годзе Слонім прыме Дзень беларускага пісьменства. Якім, на тваю думку, павінна быць свята айчыннага кнігавыдання?**

– Найперш яно павінна быць нацыянальным. І на першым месцы там павінны быць беларуская кніга, беларускі пісьменнік і беларускі выдавец. А не шашлыкі і песенная папса, ад якой ажно моташна. У Беларусі сёння ўвогуле драматычная сітуацыя з рэалізацыяй кнігі. 70 працэнтаў райцэнтраў не маюць кнігарняў! У нас некаторыя кнігі з'яўляюцца толькі на свята пісьменства, а трэба, каб яны даходзілі да людзей у кожны райцэнтр, у кожную вёску. Вось я памятаю, існавалі кнігарні ў Жыровічах, у Дзярэчыне, у Зэльве, а цяпер іх няма. Дзень беларускага пісьменства не ратуе беларускую кнігу, за адзін дзень дзеткі не навучацца роднай мове, не адкрыюцца класы з беларускай мовай навучання ў нашых школах. На сёння гэта свята выглядае проста як дзяржаўная паказуха.

**– Нядаўна стала вядома, што Слонімскі райвыканкам нарэшце прыняў рашэнне ўсталяваць у горадзе помнік Льву Сапегу. Але ў дзіўным месцы – паміж помнікам Леніну і танкам на пастаменце...**

– Колькі ў нас старшынь райвыканкама ні было – усе яны абяцалі паставіць помнік Льву Сапегу, які быў слонімскім старостам. Паводле маёй інфармацыі, помнік усё ж з'явіцца – у верасні 2019 года, да згаданага Дня пісьменства. Што да месца, то я не галоўны архітэктар Слоніма і не ведаю, чым ён кіраваўся, калі вырашалася, дзе трэба ставіць помнік. Так, плануецца ўсталяваць яго ў цэнтральным скверы, дзе стаяць танк Т-34 і Ленін, які рукой паказвае на Спаса-Праабражэнскі сабор. Дзіўнае суседства! Але няхай ставяць там, дзе вырашылі. З цягам часу Ленін прыбярэцца, танк перанясецца на тэрыторыю вайсковай часці, і слонімскі староста і канцлер ВКЛ Леў Сапега стане галоўным помнікам у нашым горадзе. З помнікамі вялікім землякам у нас увогуле бяда. Слонімшчына – адзіны раён у Беларусі, дзе не ўшанавалі ніводзін беларускі пісьменнік – няма нідзе ні шыльдачкі, ні помніка, ні бюста. Затое ёсць чатыры помнікі Леніну, адзін Дзяржынскаму, у адной вёсцы нават Калініну помнік ёсць – каля яго мужыкі гарэлку п'юць.

## «Краязнаўства – падмурак патрыятызму і прышчэпка ад «русского мира», які лезе да нас з усіх шчылін»

**– Краязнаўства можна назваць прыступкай на ўваходзе ў палац гісторыі. Як, на тваю думку, ажывіць краязнаўчы рух па ўсёй краіне?**

– Краязнаўчы рух – вялікая сіла, і яе баяцца рэгіянальныя чыноўнікі. У той жа час любая нармальная дзяржава падтрымлівае краязнаўцаў. Скажам, у Польшчы ў кожным рэгіёне пры падтрымцы мясцовых улад выходзяць краязнаўчыя выданні, ладзяцца самыя розныя імпрэзы. У нас гэтага няма ні на раённым, ні на рэспубліканскім узроўні. Наадварот, нашы ўлады на краязнаўцаў глядзяць як на апазіцыянераў. Скажам, маю кнігу "Краязнаўчыя сцежкамі Зэльвеншчыны" забаранілі прэзентаваць у Зэльве, нават пісаць пра яе не дазволілі ў раённай газеце. А калі быў Ганненскі кірмаш у Зэльве, там працавала кнігарня, і я аддаў усё, што засталося ў мяне ад накладу, на продаж. Дык за 15 хвілін кніга была раскуплена! Значыць, такая літаратура запатрабавана.

**– Ведаю, што запатрабаваны і твой краязнаўчы "Слонімскі буквар", дзе ў алфавітным парадку падаецца ўся гісторыя Слонімшчыны. Скажам, на літару "А" можна прачытаць пра Агінскіх, на літару "Ж" – пра Жыровіцкі манастыр… Колькі школьнікаў у Слоніме прачытала той буквар?**

– Было два наклады – агулам 600 асобнікаў, і ўсе яны разышліся. У нас кожная школа, кожны настаўнік і многія вучні маюць "Слонімскі буквар". На жаль, слонімскі гарадскі аддзел адукацыі не дапамог яго распаўсюдзіць. Добра было б, каб такія буквары былі ў кожным раёне. У нас чыноўнікі розных узроўняў любяць гаварыць пра нацыянальную ідэю, хоць не ведаюць, дзе яе шукаць. Дык вось, выданне рэгіянальных краязнаўчых буквароў – гэта і ёсць ажыццяўленне нацыянальнай ідэі. Бо краязнаўства – гэта падмурак патрыятызму. Мала напісаць на білбордзе "Любіце Беларусь!", трэба пра гэтую Беларусь расказаць дзецям даходліва, цікава і запамінальна. Такія буквары маглі б стаць прышчэпкай ад "русского мира", які лезе да нас з усіх шчылін.

**Міхась СКОБЛА.**

СВАБОДА СЛОВА

# Чаму Мінкульт адмаўляецца ўключыць БАЖ у спіс творчых саюзаў?

*Гэтае пытанне «Народная Воля» задала першай намесніцы міністра культуры **Ірыне Дрыга**.*



Як нядаўна паведамляла "Народная Воля", Міністэрства культуры другі раз адмовілася ўнесці ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" у пералік творчых саюзаў краіны.

У звароце Беларускай асацыяцыі журналістаў у Мінкульт падкрэслівалася: тры чвэрці сябраў арганізацыі з'яўляюцца творчымі работнікамі, якія займаюцца творчай журналісцкай дзейнасцю. Наяўнасць публікацый у сродках масавай інфармацыі правяраецца падчас прыёму ў сяборы арганізацыі. Нягледзячы на гэта, у адказе Міністэрства культуры паведамляецца, што прадстаўленыя дакументы не ўтрымліваюць звестак аб тым, што ГА "БАЖ" дзейнічае ў мэтах рэалізацыі творчых здольнасцяў творчых работнікаў, развіцця творчага патэнцыялу і творчай ініцыятывы грамадзян у сферы культуры.

У БАЖы звяртаюць увагу на тое, што праўладны Беларускі саюз журналістаў займаецца абсалютна ідэнтычнай дзейнасцю і адразу быў уключаны ў пералік творчых саюзаў. А БАЖ – не. Старшыня БАЖ **Андрэй Бастунец** гаворыць адкрытым тэкстам: гэта проста дыскрымінацыя!

Намесніца міністра культуры **Ірына Дрыга** ніякай дыскрымінацыі ў адмове ўключыць БАЖ у спіс творчых саюзаў не бачыць.

**– Ірына Уладзіміраўна, а патлумачце, калі ласка: чаму Мінкульт адмаўляе БАЖу? Чаму Беларускі саюз журналістаў – гэта творчы саюз, а Беларуская асацыяцыя журналістаў – не? Яны ж амаль адным і тым жа займаюцца, няхай і з розных бакоў!**

– Мы далі Беларускай асацыяцыі журналістаў адказ аб тым, якую дадатковую інфармацыю яны павінны нам прадставіць. Пакуль ад іх нічога няма.

**– Калі не сакрэт, што за інфармацыю вы запатрабавалі? Справа ў тым, што ў тым кароценькім адказе за вашым подпісам толькі дзяжурныя фразы…**

– Яны павінны прадставіць усё, што патрабуе ў дадзеным выпадку Кодэкс аб культуры. Мы далі вычарпальны адказ наконт таго, якой інфармацыі не ўбачылі ў дакументах БАЖа. Гэта тая інфармацыя, якая характарызуе дзейнасць саюза ў адпаведнасці з Кодэксам аб культуры.

**– А больш канкрэтна можаце сказаць, што менавіта павінна прадставіць кіраўніцтва БАЖа?**

– Усё тое, што пералічана ў адказе і ў заканадаўстве. Будзе інфармацыя – будзем яе разглядаць.

**– Ці ёсць нейкія тэрміны, на працягу якіх БАЖ павінен прадставіць недастаючую інфармацыю?**

– Гэта іх справа.

ЯК ПА ЗАКОНЕ?

### Што напісана ў Кодэксе аб культуры?

Творчыя саюзы ў Рэспубліцы Беларусь ствараюцца і дзейнічаюць у мэтах:

1. рэалізацыі творчых здольнасцяў творчых работнікаў;
2. развіцця творчага патэнцыялу і творчай ініцыятывы грамадзян у сферы культуры;
3. садзейнічання ў стварэнні, распаўсюджванні і (або) папулярызацыі твораў мастацкай літаратуры і мастацтва;
4. заахвочвання наватарства, павышэння прафесійнага майстэрства і культуры духоўных адносін;
5. ажыццяўлення сумеснай творчай дзейнасці;
6. падтрымкі членаў творчых саюзаў.

Мэты дзейнасці, прадугледжаныя пунктам 3, з'яўляюцца абавязковымі для ўказання ў статуце творчага саюза.

КАМЕНТАРЫЙ

### Андрэй БАСТУНЕЦ: «У Мінкульта нейкі выбарчы падыход!»

*Старшыня ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Андрэй Бастунец перакананы, што кіруе творчай арганізацыяй.*

– Насамрэч у адказе не было ніякага спіса канкрэтных патрабаванняў, якія БАЖ павінна выканаць – мы атрымалі стандартную кароткую адмову, – *каментуе словы чыноўніцы Дрыгі старшыня БАЖ Андрэй Бастунец.* – Сапраўды, у Кодэксе аб культуры ёсць пералік асноўных патрабаванняў, якія павінны быць у статуце творчай арганізацыі. Але пытанне ў тым, ці ўсе творчыя саюзы выканалі гэтае патрабаванне? Напрыклад, у статуце Беларускага саюза журналістаў таксама гэтых фармулёвак няма. І тым не менш іх уключылі ў спіс творчых саюзаў, а БАЖ – не! Атрымліваецца, тут у Мінкульта нейкі выбарчы падыход.

Ці дойдзе справа да ўнясення змен у статут БАЖа? Хутчэй за ўсё, бліжэйшым часам мы накіруем зварот у Міністэрства культуры з просьбай патлумачыць, чаму з двух саюзаў адзін уключаны ў спіс творчых саюзаў, а другі не. Калі ўжо патрабаваць – дык з усіх аднолькава.

**Марына КОКТЫШ.**

